Год III. Травень 1934 г. № 5 (29)

# Да злучэньня!



Ты єси Петръ, и на семъ камени созижду церковь мою. Мат. ѕі. ӣі.

## Беларуская рэлігійная часопісь.

АЛЬБЭРТЫН

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:





# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 20 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O. Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka 58.

**Konto czekowe P.K.O.: O. Paweł Macewicz 60.601.**

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопісь.

Альбэртын. Травень 1934 г. № 5 (29)



## ЭВАНГЕЛЬЛЕ

### *Малебну да Прачыстае Дзевы Марыі*

*ПАВОДЛЕ СЬВ. ЛУКІ, РАЗЬД. 10,38—42, ЗАЧ. 54.*

*38. Таго часу прышоў Ісус у адно сяло: а адна жанчына, на імя Марта, прыняла Яго ў дом свой;*

*39. І ў яе была сястра, на імя Марыя, катораяя, сеўшы ля ног Ісусавых, слухала слова Яго.*

*40. Марта-ж клапацілася аб вялікай паслузе і, стаўшы, сказала: Госпадзе, ці-ж Ты ня дбаеш, што мая сястра мяне адну пакінула паслугоўваць? Дык скажы ёй, каб мне памагла.*

*41. А Ісус адказаў ёй: Марта, Марта, турбуешся і клапоцішся аб многае.*

*42. А адно толькі патрэба. Марыя-ж выбрала лепшую часьць, якая не аднімаецца ад яе.*

# Пастырскае Пісьмо Япіскапату Польшчы.

(Працяг, гл. „Да Злучэньня“ № 3—4 за 1934 г.)

## III. На трэцім месцы мусім прамовіць у абарону сям‘і.

Сям'я і ў Польшчы пачынае недамагаць на пасьледзтвы таго сьветапагляду, які, адсоўваючы Божы закон, глядзіць на сям'ю пад кутом гледжаньня індывідуальнага ўжыцьця, бяз увагі на асновы этычныя, на грамадзкія задачы і агульнае дабро. Ужо соцыялізм увёў у нашыя рабочыя сфэры пагляд, што сям'ёю ня кіруюць вышэйшыя законы, а ёсьць яна інстытуцыяй для выгады і задаваленьня малжонкаў. Аснову гэтак панятага асабістага шчасьця ў малжэнстве пашыраюць сягоньня ў краі тыя кругі, якія, праўда, лібэралізму выракаюцца, але пераняли ад яго сумнае насьледзтва бязбожнае грамадзкае этыкі. Разьбіваньне сям'і зрабілася лёзунгам ня ў тым значэньні, што сям'я не прызнаецца нагул, але праз тое, што адбіраецца ў сям'і ўсякі сакральны характар і што не прызнаецца ніякая моральная норма, якая яе абавязвала б. Малжэнства абніжаецца да паняцьця інстытуцыі, якая захоўвае ад адзіноты. Адсюль разрываньне яго шчыльнасьці, асьмешваньне прыкладных сем'яў, незразуменьне каталіцкага малжэнскага абычаю, а нават высьмейваньне малжэнскай вернасьці. Гэта дзеецца ў прэсе, літэратуры, тэатры, кіне, на лекцыях, гутарках і зборках, а нават і ў гумарыстычных куточках часопісаў, якія прынята лічыць паважнымі.

Нічога дзіўнага, што пры сучаснай галечы і пры пэўным атупеньні моральнага пачуцьця, аб якім мы ўжо ўспомнілі, сям'і пагражае расклад. Побач з уцяканьнем ад жаніства можна сьцьвярдзіць болей грознае ўцяканьне ад малжэнскіх і сямейных абавязкаў, уцяканьне ад дзіцяці, уцяканьне ад малжэнскай вернасьці і ад адзінства малжэнства. Абясчэсьціўшы сакрамэнтальны характар, якім Бог усьвяціў сям'ю, ляіцызм замяняе яе ў дом сораму.

Для нас, каталікоў, малжэнства ёсьць таінствам і інстытуцыяй, якая ёсьць на творчай службе Правідзеньня. Сям'я ёсьць для нас сьвятасьцю, якое нельга апаганьваць. Сям'я ня ёсьць домам забавы і ўцехі, але пакліканьнем да абавязку, да высокае місіі, да ахвяры і трудоў. Дзіця ня ёсьць цяжарам і клопатам, але радасным дапаўненьнем сакрамэнтальнага адзінства сям'і, увекавечаньнем бацькі і маці ў абразе Божым і гістарычным адроджваньнем народу і чалавецтва.

Дзеля гэтага заклікаем вас, найм ілейшыя, каб вы рэлігійным паважаньнем абкружылі малжэнства і сям'ю, ай-

цоўства і мацярынства, каб вы гадавалі натуральнае і ўласьцівае здаровым народам жаданьне і мілаваньне дзіцяці. Царкоўны закон малжэнскі хай надалей будзе сьвятым і недатыкальным. Ахвяры, паношаныя для сям'і, лічэце, як найбольш узвышаныя, якія толькі споўніць у жыцьці можна. Ад гэткага паняцьця сям'і хай не адвядуць вас ніякія клічы перабудовы ладаў. Памятайце, што толькі тыя народы пережывуць іншых, якія не пазволяць сапсаваць свае сям'і. Толькі тыя народы абароняцца ад зьніштажэньня, якія зробяць з сям'і цэнтр грамадзкае і дзяржаўнае палітыкі, а ажыўляць яе будуць асновамі Хрыстовымі. Бяз моральнасьці, апёртай на Божых законах, сям'я вырадзіцца, а народ упадзе.

IV. Мусім таксама з япіскапскага абавязку парушыць справу вельмі прыкрую, а ласьне прапаганду грэшных надужыцьцяў малжэнства, пашыраную пад назовам „сьвядомага мацярынства". Сьвядомым павінна быць кожнае мацярынства ў тым значэньні, што жанчына, ідучы на дзеяньні будучае маткі, мае здаваць сабе справу з пасьледзтваў гэтага шагу і з абавязкаў, якія праз гэта пераймае. Сьвядомае мацярынства, паводле думкі хрысьціянскае, гэта — шчырая гатоўнасьць да прыняцьця дзіцяці, радаснае прывітаньне яго прыходу і рашымасьць на ахвяру з сябе для яго дабра. Сьвядомае мацярынства ў духу каталіцкім гэта — глыбокае пачуцьцё годнасьці маткі і яе павіннасьці, як у сэнсе здароўя і гігіены, так сама і перш за ўсё ў сэнсе выхаваньня патомства. Проці гэткага сьвядомага мацярынства мы не выступаем. Наадварот, раім яго жонам і маткам.

З другога боку мусім асудзіць сьвядомае мацярынства, панятае і практыкаванае, як перашкаджаньне нарадзінам непазволенымі спосабамі. Пад назовам сьвядомага мацярынства пэўныя кругі вядуць прапаганду ўхіляньня ад мацярынства і дзіцяці. Рух гэты папраўдзе павінен быў-бы называцца рухам „сьвядомай барацьбы з мацярынствам", згодна з клічам „менш нарадзінаў". Гэтак панятае сьвядомае мацярынства ёсьць пасьледзтвам матэрыялістычнага разуменьня сям'і, аб чым сьведчыць таксама зьвязваньне польскага руху сьвядомага мацярынства з гэткім-жа рухам у Саветах. Несправядліва ўгрунтоўваюць гэты рух клічамі гігіены, грамадзкай справядлівасьці, папраўляньня прыроды, а нават і дабра дзяржавы. У запраўднасьці гэта ёсьць імкненьне да ўзаконеньня граха.

Разумеем якнайлепш, што цяжкае эканамічнае палажэньне затрудняе ў вялікай меры сямейнае жыцьцё. Затрудняе, але ня робіць яго немагчымым. Аб гэтым сьведчыць факт, што найбольш закранутыя крызысам сфэры, дзякуй Богу, найвярней прабываюць у каталіцкіх сямейных традыцыях, а практыка гэтак званага сьвядомага мацярынства ахапляе перш за ўсё тыя кругі, якія вядуць выгаднейшае

жыцьцё. Гэтыя сфэры, якім лепшыя варункі давалі і даюць магчымасьць выхаваньня большае сям'і і забясьпечаньня ёй быту, першымі ўзыйшлі на шлях штучнага абмяжоўваньня патомства. З гэтага вынікае, што ўласьцівaю крыніцаю гэтага сумнага зьявішча ёсьць лёгкае разуменьне жыцьця, заняпад этычных нормаў у грамадзкім сумленьні і вызваляньне інстытуцыі малжэнства ад абавязкаў і цяжараў.

Прыпамінаем тут вечнапамятныя навукі сьв. Айца Піуса XI з Энцыклікі аб хрысьціянскім Малжэнстве: —Шмат хто адважваецца называць дзіця прыкрым цяжарам малжэнства і раіць старанліва сьцерагчыся яго, не праз чэсную ўстрымлівасьць (якая са згоды абаіх малжонкаў у малжэнстве ёсьць пазволенаю), але гвалчаньнем прыроднага акту. Гэтыя праступныя дзеяньні адны пазваляюць сабе таму, што, збрыдзіўшы сабе дзеці, хочуць ужываць роскаш жыцьця без цяжараў, іншыя засланяюцца тым, што яны ня могуць ні захаваць устрымлівасьці, ні абцяжваць сябе патомствам, ці то з увагі на сябе, ці на жонку, ці нават на свой маёмасны стан.

Але-ж няма запраўды гэткае, хоць-бы і самае важнае, прычыны, якая змагла-б узгадніць з прыродаю і апраўдаць тое, што само ў сабе ёсьць прыродзе праціўным.

Дык і ня дзіва, што паводле сьведчаньня Сьв. Пісаньня Бог у велічы сваёй страшэнным гневам прасьледаваў гэтае паганае праступленьне і нават часам караў сьмерцю, як аб гэтым успамінае сьв. Аўгустын: „Бясправўна і ганебна ўжывае малжэнства хоць і з уласнаю жонкаю той, хто ўхіляецца ад патомства. Гэтак зрабіў Анан, сын Юды, і таму ўмярцьвіў яго Бог".

Дзеля таго, што з нядаўнага часу адны, яўна адступаючы ад хрысьціянскае навукі, пераказанай ад пачатку і нязломна захоўванай, думалі, што ў цяперашнія часы іншую аб гэтым прадмеце трэба прапаведваць навуку, — дзеля гэтага каталіцкая Царква, якой сам Бог даручыў задачу навучаньня і абароны чысьціні і чэснасьці абычаяў, Царква гэтая, жадаючы сярод гэтага расслабленьня абычаяў захаваць малжэнскі саюз чыстым і ад гэтай запэцканасьці вольным, адклікаецца праз вусны Нашыя голасна і абвяшчае нанова: Кожны, хто ўжыве малжэнства дзеля таго, каб сумысьля перашкодзіць натуральнай сіле размножаньня, нарушае Божы закон і закон прыродны ды абцяжвае сумленьне сваё цяжкім грахом...

У абарону грэшнага ўжыцьця малжэнства часта прыводзяць прычыны, фальшыва прадстаўленыя або пераўвялічаныя. Бо пра бяссорамныя ня хочам зусім і ўспамінаць. Гэта-ж добрая Маці, Царква, ведае якнайлепш і дацэньвае, мамэнты здароўя, пагражаючыя жыцьцю маткі, аб якіх тут ідзе. Хто-ж можа бяз глыбокага спачуваньня аб гэтым ду-

мацъ? Каго не ахопіць найбольшае зьдзіўленьне, глянуўшы на матку, гатовую ў гэройскім пасьвячэньні ісьці няраз на верную сьмерць, абы толькі ўратаваць жыцьцё дзіцяці, якое знаходзіцца пад яе сэрцам? Яе мукі, панесеныя ў адважным спаўненьні прыроднага абавязку, толькі Бог у прабагатай міласьці сваёй зможа вынаградзіць і даць заплаўды меру ня толькі поўную, але і перапоўненую...

Таксама моцна трывожаць нас жальбы тых малжонкаў, якія, закранутыя строгім недахопам, з труднасьцю ледзь выжывіць могуць дзеці свае.

Аднак-жа трэба зважаць, каб аплаканы маемасны стан ня стаў прычынаю яшчэ болей аплаканых памылак. Бо няма гэткіх труднасьцяў, якія маглі-б скасаваць правамоцнасьць запаведзяў Божых, забараняючых дзеяньні, благія па сваёй натуры. Пры ўсякіх акалічнасьцях малжонкі могуць заўсёды, па Божай ласцы, у сваім стане жыць чэсна і малжэнскую чысьціню захаваць бяз гэтых гнюсных праступленьняў".

Згодна з гэтаю каталіцкаю навукаю, гэтак ясна выложанаю сьв. Айцом, перасьцерагаем Вас, наймілейшыя, перад неморальнасьцю практыкаў, пашыраных сяньняшнім грэшным рухам сьвядомага мацярынства і яго парадмямі. Можна хадзіць да парадняў, якія пашыраюць чэсьць для мацярынства і любоў да дзіцяці, вучаць мацярынскае гігіены і боруцца з сьмяротнасьцю дзетак. Гэтая падмога ёсьць цэнная і патрэбная для шырокіх слаёў. Нельга карыстацца паслугамі парадняў, якія вучаць, як абходзіцца з перашкаджальнымі сродкамі, і гэткім спосабам запаганьваюць крыніцы жыцьця насупроць Божага і натуральнага закону.

Бог узалежніў шчасьце чалавецтва ад послуху Яго закону. На лёсах іншых народаў заўважыць можам, што штучныя і непазволеныя абмяжоўваньні нарадзінаў замяняюць іх у народы старцаў. Яны перастаюць быць творчымі і здабыўчымі. Трухлеюць і становяць чужою здабычаю. Ці-ж Польшча павінна стаць у рады старчых, немачных, выміраючых народаў? Шкоды, выкліканай расслабленьнем малжэнскай этыкі, не паправіць гігіена і барацьба з сьмяротнасьцю. Варункам будучыні і магутнасьці Дзяржавы ёсьць шчыльная сям'я, жаданьне і мілаваньне дзіцяці, здаровае і духова сьвежае патомства, выхаванае на вачох дбайных бацькоў, якія разумеюць сям'ю, як сьвятую задачу і як сваё асабістае жыцьцёвае шчасьце. Ляіцызм, разрываючы сям'ю, ня прыслужыцца Дзяржаве. Яна адрачэцца ад духу, з якога сьвядомае мацярынства радзілася, так, як здаровы чалавек адганяе ад сябе самагубныя думкі.

Ідучы за прыказам сумленьня, з праўдзівай прыкрасьцю мы тут зазначыць мусім, што прапаганда асноваў і практыкаў, нязгодных з каталіцкім паняцьцем малжэнства і сям'і, выходзіць пераважна з кругоў „Związku Pracy Obywatel-

skiej Kobiet". Ня гледзячы на яснае становішча, якое, два гады назад, мы занялі адносна вядомага законапраекту аб шлюбах, „Związek Pracy Obywatelskiej Kobiet" вёў яго прапаганду. Гэта самая арганізацыя высоўвае тэзу, што ў Карным Колэксе трэба зьмягчыць артыкул, які датычыць караў за перарываньне цяжарнасьці, ня гледзячы на тое, што гэты артыкул і без таго ўжо ў патрэбнай меры не бароніць нявінных дзяцей. Далей кругі гэтага Саюзу распаўсюджваюць клічы сьвядомага мацярынства ў сэнсе непазволенага абмежаваньня патомства і прапагуюць неабходнасьць парадняў для г. зв. рэгуляцыі нарадзінаў, або пляцовак, якія фахова вучылі-б, як перашкодзіць мацярынству. Не спамінаючы ўжо аб некаталіцкім становішчы гэтага Саюзу ў справе коэдукацыі, мусім сьцьвярдзіць, што, з пункту гледжаньня каталіцкае навукі, уплыў „Związku Pracy Ocywatelskiej Kobiet" на фармаваньне польскае сям'і і этыкі малжэнскай ёсьць шкодны і дзеля гэтага перасьцерагаем каталічак перад гэтаю арганізацыяй і яе згубнаю прапагандай.

V. Апошняя небясьпека, на якую хочам зьвярнуць увагу, — гэта прапаганда камунізму. Ня маем тут на думцы палітычнага збліжэньня, якое, пасьля ўхіленьня перашкодаў добрасуседзкіх адносін, адбылося паміж Польшчаю і Саветамі ў сэнсе міжнароднага сужыцьця. Умацоўваючы мір на сваёй ўсходняй граніцы, Польшча якнайлепш прычыняецца да замацаваньня эўропэйскага міру, шчырай і заслужанай абароньніцай якога яна зьяўляецца.

Нам ідзе аб нешта іншае, а якраз аб тое, што некаторыя зарганізаваныя і слабыя вольнадумскія групы робяць адкрыта г. зв. ідэйнае збліжэньне або вучаць пабальшавіцку думаць, пашыраюць бальшавіцкі спосаб пагляду на жыцьцё, на грамадзянства, на рэлігію і этыку. Паводле іх няма ў камунізьме нічога гэткага, што магло-б нас прынцыпова зьдзіўляць або адстрашваць. Наадварот, кажуць, што з зьместам бальшавізму можна было-б, пры пэўных засьцярогах і папраўках, згадзіцца, а нават варта было-б якнайхутчэй камунізм у Польшчы завясьці, як вернае лякарства на ўсе недамаганьні польскага жыцьця. Бо, паводле іх, бальшавізм—гэта вышэйшая ступень культуры і поступу, на якой чалавецтва будзе іншым, як цяпер, бо дасканальнейшым, свабодным, шчасьлівым. Дык трэба вылячыцца ад упярэджаньняў, асвоіцца з гэтым аб'яўленьнем з усходу і якнайхутчэй яго ўвясьці. Гэта, а ня што іншае азначае культурнае збліжэньне, пашыранае ня толькі конспірацыйна агентамі сусьветнага перавароту, але распаўсюджванае адкрыта і публічна часопісамі і легальнымі вядомымі арганізацыямі. Ад гэтае прапаганды камунізму найсільней Вас асьцерагаем. Бальшавіцкую ідэолёгію трэба строга адкінуць, хаця-б толькі дзеля яе ваяўнічага адно-

шаньня да Бога, рэлігіі і дзеля спрэчнай з законам Божым і натуральным этыкі агульнай, грамадзкай і сямейнай. Камунізм не ашчасьлівіць ніякага народу, бо ёсьць ён у асновах сваіх нязгодны з чалавечаю прыродаю. А хоць і мог даканаць не адно ў галіне тэхнікі, дык заўсёды застанецца ганьбаю яго, што паход свой значыў нячуваным тэрорам і неапісальнымі гнюснасьцямі. Камунізм увесь час ёсьць найболей грознаю небясьпекаю для культуры сьвету і нармальнага разьвіцьця чалавецтва. Бальшавізм і надалей застаецца заразаю, ад якое павінны сьцерагчы сябе дзяржавы і народы. Усё, што мы ў гэтым пісьме пісалі аб барацьбе з вераю і Царквою, аб грозных пераваротах у галіне моральнай, аб заняпадзе сямейнага жыцьця, аб руйнаваньні крыніцаў жыцьця народаў, усё гэта зьяўляецца асновай бальшавізму і ўжо праведзена ў Саветах да апошніх граніц. Дык гэтак сама сумуем над тым, што ў некаторых арганізацыях уліваюцца ў маладыя душы і сэрцы радыкальныя і антыцаркоўныя кірункі, якія, як ў рэлігійным так і ў абычайным сэнсе зьяўляюцца як-бы прадшкольлем бальшавізму. А што найгорш—мусім сьцьвярдзіць, што на камуністычным становішчы стала арганізацыя пад назовам „Legjon Młodych". Ня гледзячы на адваротныя заявы, ён адкідае хрысьціянства; борацца з Царквою. Кідае насьмешкі на сьв. Сталіцу і на каталіцкія арганізацыі. Трэбуе разьдзелу і барацьбы Дзяржавы з Царквою. Адкідае каталіцкія этычныя нормы і згаджаецца з бальшавіцкаю моральнасьцю і грамадзкаю этыкаю. Прапагуе вольную любоў і асуджанае Царквою паняцьце малжэнства. Гэтымі прынцыпамі выпаўнены публікацыі, рэфэраты „Legjonu Młodych." Гэта ёсьць яшчэ болей грозным, таму што з „Legjonu Młodych" набіраюцца інструктары для „Straży Przedniej," якая рэкрутуецца з вучняў сярэдніх школаў.

Асуджваючы гэтае прынцыпова варожае становішча „Legjonu Młodych" адносна хрысьціянскае навукі і этыкі, выказваем надзею, што лепшая часьць гэтае арганізацыі выкліча ў ёй зьмену ідэйнага кірунку. Калі гэта не адбудзецца і калі ў часопісях ды лекцыях і надалей будзе існаваць дасюлешняе антыкаталіцкае і камуністычные настаўленьне, дык трэба будзе лічыць „Legjon Młodych" арганізацыяй, асуджанай Царквою згодна з канонічным правам.

Наймілейшыя,

Ня можам у пастырскім пісьме абгаварыць усіх недахопаў і патрэбаў сяньняшняга жыцьця. Мы далі Вам некалькі ўвагаў і ўказаньняў, якіх вы чакалі. Скарочваем іх у той думцы, што Польшча павінна застацца хрысьціянскаю, ня можа і не павінна зрабіцца вольнадумнаю, бязбожніцкаю, бальшавіцкаю. Польскае жыцьцё можа ўсяляк складацца ў сэнсе грамадзкіх ладоў, але дух яго павінен быць Хры-

стовым. Дык нельга паніжаць хрысьціянскіх ідэалаў. Нельга адступаць ад каталіцкае праўды. Нельга рабіць уступак у тым, што ёсьць законам Божым. Наадварот, трэба паглыбляць дух хрысьціянскі, бо мелкае і непасьлядоўнае хрысьціянства выклікае спусташэньне, губляе здабыўчую моц і не фармуе духу часу.

Хутка пачнуцца ў краі сьвяткаваньні Юбілейнага Году Збаўленьня сьвету. Гэтая таямніца веры павінна заняць нашыя думкі і заўладаць душамі. У сьвятле яе адбудуем у сваім жыцьці тое надпрыроднае хрысьціянства, якое вырасла з Крыві Збаўцы. У асьвятленьні гэтага найбольшага ў гісторыі чалавецтва здарэньня шукайма вырашэньня, як уласных духовых труднасьцяў, так і рэлігійных ды этычных проблемаў, якія зьяўляюцца цэнтрам сучасных імкненьняў і змаганьняў. З Хрыстовага тэстамэнту выснуйма вывады, як праз вялікадушнае апостальства ў польскім жыцьці „пакіраваць ногі нашыя на дарогу міру“ (Лук, 1, 79) **Хрыстовага ў Царстве Хрыстовым.**

Варшава, 21 лютага 1934 г.

(—) (—) (—)

**Аляксандар Кардынал Какоўскі**, архіяп.-мітрапаліт Варшаўскі.
**Аўгуст Кардынал Глёнд**, архіяпіскап-мітрапаліт Гнезьненскі і Пазнанскі.
**Андрэй Шэптыцкі**, архіяпіскап-мітрапаліт Львоўскі грэкакаталіцкага абраду.
**Язэп Тэодоровіч**, архіяпіскап Львоўскі армянскага абраду.
**Адам Сапега**, архіяпіскап-мітрапаліт Кракаўскі.
**Балеслаў Твардоўскі**, архіяпіскап-мітрапаліт Львоўскі лац. абр.
**Ромуальд Ялбжыкоўскі**, архіяпіскап - мітрапаліт Віленскі.
**Антоні-Юльян Новавейскі**, архіяпіскап-япіскап Плоцкі.
**Станіслаў Гальль**, архіяпіскап.
**Аўгустын Лосінскі**, япіскап Келецкі.
**Грыгор Хомышын**, япіскап Станіславоўскі гр.-кат. абр.
**Язафат Коцылоўскі**, япіскап Перамышльскі гр.-кат. абр.
**Мар'ян Фульман**, япіскап Люблінскі.
**Гэнрык Пшэзьдзецкі**, япіскап Падляскі.
**Вінцэнты Тыменецкі**, япіскап Лодзінскі.
**Адольф Шэлёнжэк**, япіскап Луцкі.
**Тэодор Кубіна**, япіскап Чанстахоўскі.
**Станіслаў Лукомскі**, япіскап Ломжынскі.
**Станіслаў В. Оконеўскі**, япіскап Хэлмінскі.
**Кароль Радонскі**, япіскап Влоцлаўскі.
**Ўладзімер Ясінскі**, япіскап Сандамірскі.
**Станіслаў Адамскі**, япіскап Катавіцкі.
**Казімер Букраба**, япіскап Пінскі.
**Францішак Лісоўскі**, япіскап Тарноўскі.
**Язэп Гавліна**, япіскап Палявы.
**Францішак Барда**, япіскап Перамышльскі лацінскага абраду.

# Сьв. Іоан Боско.

Яго Эмінэнцыя Кардынал Аўгуст Глёнд зьмясьціў у КАП артыкул, які займаецца ня столькі жыцьцяапісаньнем сьвятога Іоана Боско, сколькі характарыстыкай яго дзеяльнасьці і тымі сусьветнымі адносінамі, сярод якіх гэты наш сьвяты працаваў. Прыводзім тут некалькі думак Кардынала Глёнда.

XIX ст. сярод іншых вялікіх мужоў мела свайго апостала ў асобе сьв. Іоана Боско. Не кіраваў ён сьветам з Пятровай Сталіцы, не займаў монаршага пасаду, ня быў палітычным доктрынэрам, не стварыў новых філёзофічных сыстэмаў, аднак-жа на бег тагочаснае гісторыі зрабіў ён магутны ўплыў. А думкі яго зьяўляюцца кіраўнічымі для нашага пакаленьня. Іоан Боско прыйшоў на сьвет назаўтра пасьля францускае рэвалюцыі, лёзунгі якое разьнёс па сьвеце вайсковы гэні Напалеёна I. Сьвет стаў напярэдадні вялізарных зацяжных пераменаў. Магутныя нацыянальныя рухі разрываюць зьлепкі вялікіх монархіяў і ператвараюць Эўропу ў дзяржавы, твораныя на нацыянальнай аснове. Мала дасюль разглядаcivilныя грамадзкія пытаньні паволі выбіваюцца на першы плян. У змроках ненавісьці родзіцца барацьба станаў. Над усім выцягвае свае поліповыя лапы пад'земная сіла масонэрыі і ў душачых спляценьнях ляіцыстычнай палітыкі хацела-б зьнішчыць і згнясьці хрысьціянскую думку Царквы.

Гэні нашага сьвятога выбег магутным паглядам духу ў далейшую будучыню і ахапляў прабег гэтых зьменаў ува ўсёй іх грознасьці. Прадбачыў і прадказаў падробна вялізарнасьць няшчасьцяў, якія мелі ўпасьць на народы і дзяржавы, на рэлігію і на Царкву. Дасканальна разумеў пры гэтым, што прычынаю нядолі чалавецтва было адхіляньне яго ад Хрыстовых асноваў і шуканьне вырашэньня складаных праблемаў у атэізме і бязвер'і. Дзеля гэтага жыцьцё сьвятога І. Боско было ні чым іншым, як вялікаю справаю навяртаньня ўсяго грамадзтва да Хрыста. Яго прыватная і публічная, сьвяшчэньніцкая, выхаваўчая, пісьменьніцкая і грамадзкая дзейнасьць ішла да таго, каб новы пэрыяд гісторыі надыхнуць несьмяротным духам Хрыстовым.

Быстрым розумам сьвяты наш улавіў небясьпеку, якая пагражала ня толькі хрысьціянскім дзяржавам, але і Царкве, і сам трымаўся пагляду, што палітыка павінна апірацца на малітве „Ойча наш". І становішча гэткае радзіў духоўным іерархам. Бо Царква ня можа быць а ні партыяй, а ні палітычным кірункам. Заданьнем Царквы зьяўляецца быць фундамэнтам прыватнага і грамадзкага жыцьця, сям'і, грамадзтва і дзяржавы. Дзеля гэтага Царква прапаведуе ўсім адвечныя законы і прасьвячае цемру чалавечага розуму аб'яўлёнаю праўдаю.

Бяз меры багатая дзеяльнасьць сьв. Іоана Боско была

па істоце сваёй будаваньнем новых часоў, абапёртых на духу Хрыстовым. Да гэтае задачы паклікаў рухлівае зграмаджаньне. Да гэтае задачы школіў моладзь, а да дзейнага ўдзелу ў гэтай будове знайшоў „Салезіянскіх Памоцнікаў". Школіў гэрояў працы, бо прадбачыў век „Каталіцкае Акцыі".

У візіях будучыні аглядаў ён меўшыя адбыцца цуды апостальства, гэройскае барацьбы Царквы, трыумфы Хрыста над „сынагогаю сатаны".

Гэтак была скірована праца сьв. Іоана Боско і гэткім было яго пасланьніцтва ў жыцьці Царквы.

# Хроніка.

## У ПОЛЬШЧЫ.

**Дубно. Урачыстая акадэмія.** Папская Усходняя Сэмінарыя ў Дубне ладзіла 4 сакавіка с. г. ў чэсьць 1900-лецьця Адкупленьня чалавецтва і ў памятку 12-х угодкаў каранацыі сьв. Айца Піуса XI ўрачыстую публічную акадэмію.

Праводнай думкай акадэміі быў перадсьмертны запавет Збаўцы сьвету: адзінства і любоў паміж людзьмі і бязупынная руплівасьць сучаснага наступніка сьв. Пётры Піўса XI аб зьдзейсьняньні гэтага запавету.

Багаты зьмест праграмы, якая складалася з рэфэратаў і раду дэклямацыяў і песьняў на украінскай, польскай, беларускай, рускай, царкоўнай і лацінскай мовах вельмі добра аддаваў гэту вялікую ідэю.

Урачысты настрой акадэміі і ўдалае выкананьне праграмы зрабіла глыбокае ўражаньне на прысутных, будзячы зацікаўленьне да працы „Каб усе былі адно" праз любоў.

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

**Ватыкан, 3.IV. КАП. Зачыненьне Сьвятых Варот.** У нядзелю ў полдзень адбылася ўрачыстасьць закончаньня Юбілею і замураваньня Сьвятых Варот у чатырох рымскіх вялікіх базыліках. У ватыканскай базыліцы акт гэты выканаў сьв. Айцец у асыстэнцыі 19 кардыналаў, 60 архіяпіскапаў і япіскапаў, прадстаўнікоў царствуючых дамоў і прынцаў крыві, дыплёматычнага корпусу, ватыканскіх уладаў і рымскае шляхты, а таксама вялікіх масаў верных. Пасьля цэрамоніі замураваньня Сьвятых Варот Папа згаварыў малітвы і засьпяваў Te Deum, кончачы ўрачыстасьць Юбілейнага Году дараваньнем юбілейнага одпусту.

Адначасна акт зачыненьня Сьвятых Варот у іншых базыліках выпаўнілі кардыналы-легаты: Граніто — у сьв. Паўла за Мурамі, Marchetti у сьв. Іоана на Лятэране і Dolci ў Н. Д. Марыі Большае.

**Ватыкан—КАП. Навярненьні сярод праваслаўнага духавенства ў Злучаных Штатах.** Б. праваслаўны сьвяшчэньнік Ўладзімер Аляксандраў, які ў лонскім годзе на Сёмуху перайшоў да Каталіцкае Царквы, у гутарцы з прадстаўніком „Osservatore Romano." зазначыў, што сярод праваслаўнага кліру былое расейскае царквы заўважваецца паважнае імкненьне да Рыму. Шмат якія з амэрыканскіх расейцаў у хуткім часе выпаўняць аканчальны акт пераходу на лона Каталіцкае Царквы. Айц. Аляксандраў мае надзею, што ў найбліжэйшым часе зможа асабіста паехаць у Рым, каб прадставіць сьв. Айцу віды конвэрсыйнага руху, абапёртага на шырокай аснове. Апошнім часам ён атрымаў пісьмы ад 40 праваслаўных духоўнікаў, якія хацелі-б паінфармавацца аб магчымасьцях дапушчэньня іх да Царквы, як каталіцкіх сьвяшчэньнікаў. Той факт, што Рым прызнаў як высьвячэньні праваслаўнае Царквы, так і візантыйскі абрад, даказвае, што шмат хто з расейскіх духоўнікаў пазбыўся апошніх засьцярогаў датычна злучэньня з Пятроваю Сталіцай.

**Нью-Іорк—КАП. Прасьледаваньне прафэсароў і каталіцкае моладзі ў Мэксыцы.** Мэксыканскі ўрад і далей ужывае драконскія рэпрэсіі проці каталіцкіх прафэсароў і студэнтаў дзяржаўнага унівэрсытэту ў сталіцы. Улады абвясьцілі цяпер камунізм афіцыяльным сьветаглядам вышэйшых дзяржаўных школаў. У сувязі з гэтым каталіцкія прафэсары і студэнты выказаліся за забастоўку. Павадыр пратэстацыйнага руху, вельмі заслужаны дзеяч на ніве міжнароднай акцыі каталіцкіх студэнтаў, праф. д-р Amando Chaver Camacho зара-жа быў арыштованы і ў экстрэным парадку засуджаны на два гады вастрогу.

**Ватыкан, 21.III.КАП. Гэройская сьмерць місіянэра.** У прытулку для пракажаных у Khormelan у ангельска-эгіпэцкім Судане памёр нядаўна брат Jozue Delcas з зграмаджаньня Найсьвяцейшага Сэрца Ісусавага, які ў маладым веку выехаў на місію і з вялікаю ахвярнасьцю працаваў сярод нэграў племя Шыльлюк. Пасьля дванаццацёх гадоў вельмі цяжкае місійнае працы брат Delcas у 1921 г. вярнуўся ў свой край дзеля адпачынку. Аднак-жа аказалася, што ў далёкай Афрыцы ён заразіўся страшэннаю хваробаю — праказаю. Дзеля гэтага пачаў прасіць, каб яму пазволена было вярнуцца ў Судан і памёрці сярод нэграў. Да 1928 г. прабываў ён у Gesira пад Каірам, пасьля старшыя, з увагі на яго шматразовыя просьбы, пазволілі яму перайсьці ў прытулак для пракажаных у Khormelan каля Wau. Там ён пражыў свае апошнія гады сярод 200 пракажаных нэграў і памёр, як ахвяра гэройскае любові да бліжняга.

**Масква—КАП. Далейшыя рэлігійныя прасьледаваньні ў Саветах.** Усё новыя і новыя весткі, якія надыходзяць з Саветаў, дапаўняюць абраз нялюдзкага рэлігійнага прась-

ледаваньня, ужо цэлы рад гадоў праводжанага на абшары ўсяе Расеі ГПУ.

Нядаўна Я. П. Япіскап Антоні Малецкі, скончыўшы срок свайго выгнаньня ў Сыбіры, замерваўся вярнуцца ў Ленінград, адкуль ён быў высланы, але савецкія ўлады не пазволілі яму выехаць далей Іркуцка. Як і дасюль, Япіскап Малецкі надалей застаецца ў Сыбіры.

За апошнія месяцы ГПУ арыштавала цэлы рад каталіцкіх сьвяшчэньнікаў: а. Блехмана ў Кіеве, а. Шубэрта ў Адэсе, а. Ільлі (адэская губ.), а. Гацэнбэльлера (Эйхвальд каля Марыуполя), а. Куна (каля Аляксандраўска на Дняпры). Савецкія ўлады, а асабліва страшэннае ГПУ бязьлітасна прасьледуюць ня толькі сьвяшчэньнікаў, але і сьвецкіх каталікоў. Апошнім часам шмат праваслаўных духоўнікаў адпала ад Царквы. Гэтае зьявішча, робячыся з кожным разам зусім звычайным, зразумела выклікала раскол у праваслаўнай царкве. У рэзультаце гэтага расколу што раз дык больш пачалі шырыцца ў Расеі сымпатыі да Каталіцкае Царквы, а таксама і жаданьне прылучыцца да Апостальскае Сталіцы, праяўляючыся асабліва сярод праваслаўнага духавенства. ГПУ, бачачы ў каталіцызьме ўсходняга абраду небясьпечнага ворага марксаўскіх ідэалаў і баючыся, што ўнійная акцыя праз нядоўгі час ахопіць вялікую колькасьць праваслаўных, ужо каля 10-цёх гадоў вядзе сыстэматычную і крывавую барацьбу з усходнім абрадам. Трэба дадаць, што рады каталікоў усходняга абраду ў Саветах складаюцца пераважна з жанчын. Вера і гэройства гэтых жанчын, жорстка прасьледаваных ГПУ, можа зьдзівіць цэлы сьвет, прыпамінаючы яму першыя вякі хрысьціянства. У шмат якіх выпадках мучаныя ў вастрогах каталіцкія жанчыны хварэюць сільным псыхічным расстройствам. ГПУ зьдзекуецца ня толькі над дарослымі, але таксама і над няпоўналетнімі. Нядаўна арыштована 16-гадовая дзяўчына-каталічка і некалькі яшчэ малодшых хлапцоў.

Савецкія ўлады апошнім часам цешацца, што здолелі цэлыя вялізарныя абшары Расеі „ачысьціць“ ад душпастыраў. У рэзультаце гэтае працы ГПУ, у Сыбіры няма цяпер аніводнага сьвяшчэньніка. У Туркестане і на Урале застаўся толькі адзін адзіны а. Будрыс. У Уфе нядаўна арыштавалі а. Іодокаса.

**Бэрлін—КАП. Пратэст нямецкага амбасадара ў Маскве процiў арышту сьвяшчэньнікаў.** З Масквы паведамляюць, што з прычыны арышту 10 каталіцкіх сьвяшчэньнікаў і 9 пастараў, савецкіх грамадзян нямецкага паходжаньня, нямецкі амбасадар у Маскве зложыў савецкаму ўраду афіцыяльны пратэст. У сваіх матывах прадстаўнік Нямеччыны паклікаўся на нядаўную заяву Ліцьвінава ў Амэрыцы аб спыненьні рэлігійнага прасьледаваньня ў Саветах.

# КУТОК ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Любоў Хрыста і сіла веры—
Вось сымболь Рыцарства Дзяцей!
Ён нам адчыніць неба дзьверы,
Злучэмся з Ім усе хутчэй!

Мы — дзеці Бога; Бог Прадвечны
Паклікаў ўсіх Яму служыць,
А Матка Божа, лік нябесны
Навучаць нас Хрыста любіць.

Парвем-жа мы грахоў аковы,
Адважна будзем з Богам жыць,
А Эўхарыст'я — сьветач вечны —
Заўсёды будзе нам сьвяціць.

Ў Ей наша сіла і адвага,
Ў Ей радасьць, шчасьце і спакой;
Ідзем-жа дружна ўсе да Бога,
Каб вечна жыць маглі з Табой!

---

# Дарагія дзеткі.

Як ужо абяцала вам у папярэднім нумары „Да Злучэньня,“ падаю тутака абавязкі сяброў Рыцарства Ісусавага.

Рыцар (рыцарка) Эўхарыстычнага Ісуса:

1. Ніколі не прапушчае ранешняе і вячэрняе малітвы.
2. У царкве ці капліцы спаўняе ганаровую варту перад Госпадам Ісусам Хрыстом. (Значыцца, набожна моліцца, не разглядаючыся, а думкі і сэрца скіроўвае толькі ў бок Дарахраніцельніцы, дзе прабывае Найвышэйшы Ўладар і найлепшы Прыяцель дзяцей).
3. Заўсёды ад'значаецца паслухмянасьцю перад бацькамі і старшымі.
4. Стараецца быць руплівым у навуцы і ў школьных абавязках.
5) Ёсьць ангелам чысьціні і гадзіцца няскромнай размовай, кніжкай, малюнкам і гульнёй.
6. Служыць прыкладам дабраты і ўхіляецца ад розных спрэчак і сварак.
7. Любіць праўду і ніколі ня гнюсіць маною вуснаў сваіх.
8. Услужны для іншых і гадзіцца самалюбствам.
9. Ёсьць поўным радасьці жыцьця і стараецца спраўляць праўдзівую радасьць бацьком і абкружэньню.
10. Ёсьць старанлівым апосталам каталіцкае прэсы.

Бачыце, дарагія дзеткі, на сьвеце ёсьць гэтулькі няшчасьця, гора, гэтулькі нядобрых людзей і дзяцей, якія цягнуць да злога. Самі няшчасныя і іншых робяць няшчаснымі. Калі гэтага добрага Ісуса Хрыста, Каторы гэтак любіць людзей і дзяцей, пакрыўдзяць сваімі нягоднымі, брыдкімі паступкамі, дык вы, дарагія дзеткі, можаце нясьці Яму, вашаму Хрысту-Цару, — як Яго малыя рыцары (рыцаркі), — гэтулькі радасьці і любові!

Аддайце-ж Яму свае малыя, чыстыя сэрцы, скажэце, што вы любіце Яго і Ён напоўніць вашыя сэрцы вялікаю

радасьцю і шчасьцем. Адгукнуліся дзеці ў першыя вякі, калі паміралі сьвятою сьмерцяй, як мучанікі за веру Хрыстову; адгукнуліся дзеці ў сярэднія вякі, калі жыцьцё сваё аддавалі за сьвятасьць хрысьціянства—Гроб Господаў; адгукнуліся дзеці перад вайною і цяпер,—злучыліся ў мільённую армію Хрыста-Цара з адною вялікаю малітваю ў душы: „Хай прыдзе Царства Тваё!“

А ці-ж вы не адгукнецеся?) Няўжо-ж застанецеся глухімі да голасу і просьбы Хрыста, каб памагчы Яму? О, ніколі! Чую, што ўжо адгукнулася ваша шляхотнае сэрца і вы кажаце: „Іду, о Божа!“



**Дзіцячы садок С.С. Місіянэрак у Нарве (Эстонія).**

Дык ідзеце-ж, пазнайце, дзе ёсьць гэта арганізацыя, а калі самі будзеце шчасьлівымі, дык давайце, нясеце гэтае шчасьце і іншым дзецям ды людзям.

Хай царствуе Хрыстос!

Усюды і навекі!

*Сястра Гілярыя.*

# Усячына

**Вялізарны крыж на ўзгор'і каля Сан-Францыско.** На найвышэйшым узгор'і недалёка ад Сан-Францыско пастаўлены нядаўна вялізарны крыж з бэтону вышынёю 30 мтр. Шырыня крыжа — 14 мэтр., а аснова 25 мтр. у дыямэтры. Крыж гэты названы „Вялікодным" і знаходзіцца на вышыні 300 мтр. над роўнем мора. (КАП).

**Пераклад Сьв. Пісаньня на літоўскую мову.** (Рыга, 26.III,1934). Як ведама, Літоўцы ня мелі дасюль поўнага тлумачэньня Сьв. Пісаньня на родную мову. На пераломе XV і XVI ст. ст. перакладзена было і то з вялікім трудом Эвангельле на нядзелі і сьвяты. Затым у XVIII ст. унівэрсытэцкая друкарня ў Вільні выпусьціла чатыры Эвангельлі папольску і палітоўску; кніга гэтая мела пяць выданьняў. І толькі цяперашні ковенскі Архіяпіскап, пасьля 30-гадовае напружанае працы, скончыў вялікую справу перакладу Сьв. Пісаньня на літоўскую мову. Праца яго, як выдатнага спэцыялістага, мае вялікую царкоўную і лінгвістычную вартасьць. (КАП).

**Вялікая нагарода ў 500.000 франкаў для вучонага каталіцкага духоўніка.** (Брусэль). Айц. Lemaitre, прафэсар унівэрсытэту ў Lawanium, аўтор паважнае працы па астраноміі і фізыцы, атрымаў 500.000 франкаў нагароды, прызнанай яму камісіяй найвыдатнейшых вучоных сьвету пад прэзэсоўствам прафэсара Langewin з Institut de France. (КАП).

**Першы сьвяшчэньнік з індыйскага племя Араўканаў.** (Горад Ватыкан). Япіскап Гвідо Бэк, апостальскі вікары Араўканіі ў Чылі апошнім часам высьвяціў на сьвяшчэньніка першага індыйца з племя Араўканаў, вядомага сваім спраціўленьнем прыйманьню эўропэйскае цывілізацыі. Гэтым першым араўканскім сьвяшчэньнікам ёсьць а. Pascuale Allcapang. (КАП).

**Самагубствы і нішчэньне тавараў.** Паводле падлічэньняў Камітэту для зьмяншэньня сусьветнай бяды ў Бостоне (Амэрыка) ў прошлым годзе адабрала сабе жыцьцё з прычыны розных бедаў 1,200,000 асоб, а дзеля ўтрыманьня высокіх цэнаў некаторых прадуктаў, зьнішчана ў гэтым самым часе 114,000 вагонаў рыжу, 2,500,000 клг. цукру, 400,000 вагонаў пшаніцы, 1,400,000 клг. мяса, 267,000 мяшкоў кавы і шмат іншых прадуктаў.

# Календар

на м—ц Травень 1934 г.

| Стары стыль | | | Новы стыль | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Кал. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kal.niadz. i światа łac. abr. | | |
| 1 | П | Ярэміі | 14 | P | Bonifaca |
| 2 | А | Афанасія Вялік. | 15 | A | Zofii muč., Jana |
| 3 | С | Хвядоса Пячэр. | 16 | S | Andreja, Jana |
| 4 | Ч | **Ушэсьце Госп.,** Палагеі | 17 | Č | Paschalisa. Brunona |
| 5 | П | Ірыны | 18 | P | Feliksa |
| 6 | С | Іова | 19 | S | Piotry, Celest. |
| 7 | Н | **Нядз. 7 п. Пасхі.** С. Айц. | 20 | N | **Zychod Św. Ducha.** |
| 8 | П | Іоана Багаслова | 21 | P | **Zialonyja światki**. Wikt. |
| 9 | А | Перан. мошч. сьв. Мікал. | 22 | A | Julii. Aleny |
| 10 | С | Сымона ап. | 23 | S | † *Suchi dzień*. Michała |
| 11 | Ч | Кірылы і Мяфода | 24 | Č | Joanny. Zuzany |
| 12 | П | Эпіфана | 25 | P | † *Suchi dzień*. Urbana |
| 13 | С | Глікерыі *Бацьк. Суб.* | 26 | S | † *Suchi dzień*. Pilipa |
| 14 | Н | **Сьв. Тройцы. Сёмуха** | 27 | N | **Światoj Trojcy.** Jana |
| 15 | П | Сьв. Духа. Пахома Вял. | 28 | P | Aŭhustyna |
| 16 | А | Тодара | 29 | A | Maryi Mahdaleny |
| 17 | С | Андроніка | 30 | S | Ferdynanda. Feliksa |
| 18 | Ч | Хвядота | 31 | Č | **Božaje Cieła**. Anieli. |
| | | | | | ČERWIEŃ |
| 19 | П | Патрыкія | 1 | P | Jakuba |
| 20 | С | Фалялея | 2 | S | Marcelina. Piotry |
| 21 | Н | **Нядз. 1 па С. Усіх Сьв.** | 3 | N | Erazma. Klotyldy. |
| 22 | П | Пач. Пятр. посту.мч. Вас. | 4 | P | Franciška, Laturnina |
| 23 | А | Эўфрасіньні Полацкае | 5 | A | Bonifaca. Waleryja |
| 24 | С | Сымона Стоўпн. | 6 | S | Norberta. Klaŭdyja. Pak. |
| 25 | Ч | Знаход гал. Іоана Хр. | 7 | Č | Roberta |
| 26 | П | Карпа ап. | 8 | P | **† Najśw. Serca J. Chr.** |
| 27 | С | Ферапонта. | 9 | S | Felicyjana. |
| 28 | Н | **Нядз. 2 па С.** Мікіты | 10 | N | Marharyty. Bohumiła |
| 29 | П | Хвядосі мч. | 11 | P | Barnaby |
| 30 | А | Пр. Ісаака Дал. | 12 | A | Jana Wialikaha. Anufreja |
| 31 | С | Ерма ап. | 13 | S | Antona. Lucyjana. |

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.